Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№ 7 (775) 12 лютага 2015 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




„Краіна гармоніі і святла" – выстава рэпрадукцый карцін Мікалая Рэрыха адкрылася ў Глыбоцкім цэнтры культуры.

Выстава прымеркавана да 140-х угодкаў з Дня нараджэння Рэрыха і 80-х угодкаў падпісання Пакта Рэрыха – першай міжнароднай дамовы пра ахову мастацкіх, навуковых устаноў і гістарычных помнікаў.

*Фота Змітра Лупача.*

## Браслаўскі раён

# З надзеяй на перамены

■ Станіслаў Раманчук.

**Чарговая серыя масавых кадравых перастановак закранула і самы азёрны край краіны – Браслаўскі раён.**

Днямі на пазачарговай сесіі мясцовага райсавета дэпутатаў на пасадзе новага старшыні райвыканкама аднагалосна быў зацверджаны яшчэ даволі малады, 37-гадовы Уладзімір Дранеўскі. Новы глава вобласці Мікалай Шарстнёў павіншаваў яго з гэтым прызначэннем і ўручыў адпаведнае пасведчанне. На Браслаўшчыну новага кіраўніка, які мае два дыпломы аб вышэйшай адукацыі інжынера і бухгалтара, перавялі з пасады дырэктара Чашніцкага райкамунгаса, дзе яму ўдалося многае зрабіць для паляпшэння спраў. У мінулым за плённую дзейнасць У. Дранеўскі атрымаў ганаровае званне "Чалавека года Віцебшчыны", ён зарэкамендаваў сябе нядрэнным спецыялістам, калі працаваў механікам ПМС, потым майстрам райгаза, начальнікам СТА. Дарэчы, і яго папярэднік 44-гадовы Сяргей Шматаў за няпоўных 3 гады працы ў азёрным краі ў няпростых умовах стараўся палепшыць жыццё прыгожага рэгіёна. Пры ім горад мяняўся, нарэшце здалі сучасную аўтастанцыю, абнавіўся малзавод, на сайце старшыні райвыканкама можна было задаць любое хвалюючае пытанне. Аднак раён у асноўным сельскагаспадарчы, не пазбегнуў адтоку працоўных рэсурсаў, а ўзровень заробкаў вяскоўцаў быў адным з самых нізкіх у краіне, на плыву былі толькі лічаныя гаспадаркі.

Цяпер часу на раскачку ў новага главы Браслаўшчыны практычна няма, бо веснавая сяўба не за гарамі, але старанным, ініцыятыўным, гаспадарным людзям ён паабяцаў сваю поўную падтрымку, каб супольнымі намаганнямі паступова мянялася жыццё да лепшага.

## Пастаўскі раён

# З любоўю да Паазер'я

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам паўсюдна адчуваецца ў многіх беларусаў цікавасць да сваіх каранёў, да гісторыі родных мясцін.**

Вось і Пастаўскім раёне днямі ў мясцовай гімназіі для адораных дзяцей прайшла прэзентацыя другога дапоўненага выдання кнігі-падручніка "Чароўны край Пастаўшчына". Яе аўтар Ігар Пракаповіч цяпер працуе ў гімназіі настаўнікам, з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі і ўзначальвае навуковае краязнаўчае таварыства школьнікаў "Ювента". Амаль чвэрць стагоддзя свайго жыцця аддаў гэты таленавіты літаратар-краязнаўца, каб кожны вучань і чытач гэтай кнігі адчуў подых шматвяковай гісторыі і асалоду ад прыгажосці роднага краю. Пра ўнікальны, самы заходні рэгіён Прыдзвіння, які бярэ свой пачатак яшчэ ад крывічоў, удалося сабраць і сістэматызаваць багацейшы матэрыял на больш чым трохсот старонках. Адных толькі каляровых ілюстрацый у кнізе прыведзена таксама звыш трохсот, выйшла ў свет яна ў адным са сталічных выдавецтваў у цвёрдай вокладцы накладам 400 экзэмпляраў. Першае выданне пабачыла свет некалькі гадоў назад у колькасці толькі 100 асобнікаў, якія сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. На новую кнігу сабралі сродкі ўсім раёнам, шмат грошай паступіла ад спонсараў. Гэты падручнік для дзяцей напісаны вельмі цікава, яго і дарослыя прачытаюць з захапленнем, бо акрамя школ кніга пра Пастаўшчыну паступіць ва ўсе бібліятэкі рэгіёна. А кожны чытач абавязкова шмат новага даведаецца пра родныя мясціны, цікавыя падзеі, выдатныя імёны і пра маляўнічую прыгажосць прыроды.

## Полацкі раён

# І ў спартсменаў праблемы

■ Чэслаў Якубовіч.

**Відавочны крызіс у айчыннай эканоміцы ўсё мацней закранае і раней абласканы беларускі спорт, асабліва яго камандныя гульнявыя віды.** У адрозненне ад паловы прафесійных футбольных клубаў краіны, сітуацыя летась у ФК "Нафтан" (Наваполацк) складвалася больш-менш нармальная. Калі ў Гомелі, Гродне, Жодзіне, Брэсце, Бабруйску ігракам "забываліся" выплачваць заробкі і адпускныя па заключаных кантрактах, то навапалачане ў тэрмін атрымоўвалі на банкаўскія карткі ў сярэднім па 5 млн. рублёў штомесяц. Пры новым трэнеры Валерыі Стрыпейкісе падабраўся баяздольны калектыў, які доўга быў у тройцы лідараў, а ў выніку фінішаваў на высокім 5-м месцы. Аднак апошні раз футбалістам "Нафтана" паўнацэнную зарплату разам з прэміяльнымі за паспяховыя матчы і надбаўкамі за прафесійнае майстэрства выдалі толькі ў ліпені мінулага года і болей перасталі плаціць. Дырэкцыя клуба абяцала спартсменам разлічыцца з імі па даўгах да канца года, але сваё слова не стрымала і сёлета ў студзені. Праўда, асноўныя футбалісты не сталі масава пакідаць сваю каманду, бо ў іншых клубах яшчэ горш з фінансамі. Добра гуляць "Нафтан" умее і можа, у кантрольным матчы ён з буйным лікам 3:0 разграміў ФК "Віцебск", які вярнуўся ў вышэйшую лігу. Зараз навапалачане вырашылі яшчэ пачакаць да канца лютага, але калі ім даўгі па зарплаце не вернуць, то яны звернуцца з іскамі да клуба ў суд.

# Аб самым надзённым

## КЕПСКА БУДЗЕ І НАМ, БО АСНОЎНЫ ПАКУПНІК АЙЧЫННЫХ ТАВАРАЎ РАСІЯ АПЫНУЛАСЯ НА ГРАНІ ВЫЖЫВАННЯ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**З іншага боку наша залежнасць ад усходняга суседа проста велізарная, па пастаўках тых жа энерганосьбітаў яна практычна абсалютная. Таксама і з прадажамі айчынных тавараў, бо расійскі рынак займае амаль палову беларускага знешняга гандлю.**

Нядаўні працяглы адкрыты і, трэба падкрэсліць, добразычлівы дыялог беларускага лідара на прэс-канферэнцыі з прадстаўнікамі айчынных і замежных СМІ пацвердзіў, што Беларусь уступіла ў адзін з самых няпростых перыядаў сваёй навейшай гісторыі. Са скрыпам пачаў дзейнічаць новы інтэграцыйны праект Еўразійскага эканамічнага саюза на фоне вайны ва Украіне і іншых сур'ёзных знешніх выклікаў. Пра гэта кіраўнік краіны гаворыў доўга і шчыра, паўтарыў зноў тэзіс, што ў суседняй Расіі "хватает дураков" (раней узгадвалася пра бязмозглую палітыку яе кіраўніцтва).

Падчас прайшоўшай прэс-канферэнцыі А. Лукашэнка сказаў цвёрда, што Беларусь не стане часткай Расіі і так званага "русского мира", пачынае выраблять асобныя віды сучаснай зброі і пачынае рыхтавацца да адпору любому агрэсару. Прэзідэнт, безумоўна, атрымае падтрымку нацыі, каб у нас не паўтарыліся падзеі па крымска-данбаскаму сцэнарыю. Зноў было падкрэслена з яго вуснаў, асабліва да прыхільнікаў палітыкі Крамля, на нашай зямлі спробам пашырэння прарасійскіх ідэй будзе дадзены належны адпор. Беларусь захавае адданасць саюзніцкім абавязкам, але адначасова будзе весці перамовы і аб крэдытах МВФ, бо яны самыя выгадныя.

З іншага боку наша залежнасць ад усходняга суседа проста велізарная, па пастаўках тых жа энерганосьбітаў яна практычна абсалютная. Таксама і з прадажамі айчынных тавараў, бо расійскі рынак займае амаль палову беларускага знешняга гандлю. Праўда, глава дзяржавы заявіў, што нязменным застанецца праводзімы ў Беларусі эканамічны курс сацыяльна-арыентаванай вытворчасці, але пачнём шукаць і новыя дадатковыя рынкі збыту. Афіцыйны лідар папярэдзіў, што прымусіць усіх сёлета асабліва "шевелиться".

Іншая справа, з чым мы вымушаны будзем лічыцца, што агрэсіўная імперская палітыка Крамля ўжо вылезла для рускага народа бокам.

Суседняя Расія апынулася за кароткі тэрмін пасля абвалу цэн на нафту і ўведзеных Захадам санкцый і расійскіх мер у адказ на грані выжывання. Сітуацыя на расійскіх прасторах не проста трывожная, яна з кожным тыднем пагаршаецца. Вось напрыканцы студзеня рубль РФ яшчэ болей саслабеў, а долар і еўра сталі каштаваць 71 і 81 адпаведна рублікаў. Але яшчэ больш дрэнна, што ў суседзяў шалёна растуць цэны і ў бліжэйшы час з'явіцца 1,5 млн. чалавек, страціўшых працу. Ужо адкрыта расійскія СМІ сцвярджаюць, што нават у самай учора багатай і сытай Маскве на вуліцу папросяць звыш 300 тысяч чалавек.

У Крамлі не знайшлі нічога іншага, як прапанавалі рэгіёнам з яшчэ больш моцным крызісам, чым у цэнтры, змагацца самім. Каб рускія людзі лягчэй перажывалі жыццёвыя цяжкасці, улады пайшлі і на зніжэнне цэн да 185 рублёў за бутэльку гарэлкі. Эканамічная актыўнасць на прасторах ад Смаленска да Курыл стала прыкметна заціхаць і Цэнтрабанк РФ знізіў ключавую стаўку рэфінансавання да 15 % гадавых. У дадатак да ўсіх дрэнных навін прыйшло паведамленне, што ў расійскім урадзе сталі думаць аб плаўным павышэнні пенсійнага ўзросту з 2018 года, калі У. Пуцін, магчыма, пераабярэцца на свой 4-ты прэзідэнцкі тэрмін.

Калі гаспадар галоўнага крамлёўскага кабінета дасць такую адмашку, то ў расіян штогод будуць прыбаўляць па паўгода пенсійны ўзрост і давядуць яго адпаведна для 57,5 гадоў для жанчын і 62,5 гадоў для мужчын. У нас многае паўтараюць тое, што робяць у Расіі, так што і беларусаў у перспектыве таксама чакае павышэнне пенсійнага ўзросту. Тым часам расійскім уладам прыйшлося прыняць антыкрызісны план на гэты год і пайсці на значныя скарачэнні расходаў бюджэту. У расійскіх рэгіёнах абстаноўка яшчэ больш крытычная, там летась непаступленні грошай у мясцовы бюджэт выраслі на 20 %, а недахоп сродкаў для бягучай дзейнасці дасягнуў 2 трлн. рублёў.

Таму і не дзіўна, што беларускі лідар на той жа прэс-канферэнцыі крыху пастрашыў Крэмль і заявіў, што не выключае выхаду Беларусі з ЕЭАС, калі гэты саюз не стане раўнапраўным. Рабіліся такія заявы напярэдадні прыезду ў нашу краіну чарговай місіі МВФ. Аднак палітолагаў і экспертаў падобныя заявы А. Лукашэнкі не здзівілі, ён і раней рабіў шмат гучных выказванняў аб шматвектарнасці сваёй палітыкі, аднак практычна ўрону інтарэсам Расіі не прыносіў. Беларускі лідар і цяпер падкрэсліў, што без эканамічных сувязей з суседам на Усходзе наша краіна не выжыве. Адзінае толькі, што ў 2015 годзе і далей, можа нават у бліжэйшыя некалькі гадоў, многім рускім людзям стане жыць яшчэ больш складана і няпроста. А ўслед за імі падобныя праблемы чакаюць і нас, ад гэтага беларусам ужо нікуды не дзецца.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 12.02.15 | | | | Пятніца 13.02.15 | | | | Субота 14.02.15 | | | | Нядзеля 15.02.15 | | | | Пан.16.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | * | * | | | * | * | * | | * | * | * | | * | * | * | * | * | * | * |
| Тэмпература | -2 | -2 | -1 | -2 | -2 | -3 | -2 | -3 | -3 | -3 | -1 | -2 | -3 | -2 | -1 | -2 | -3 | -3 | -1 |
| Ціск | 753 | 753 | 752 | 751 | 752 | 754 | 754 | 753 | 752 | 751 | 751 | 749 | 749 | 750 | 752 | 753 | 755 | 758 | 759 |
| Вільготнасць | 95 | 90 | 85 | 93 | 91 | 89 | 83 | 90 | 90 | 87 | 85 | 89 | 89 | 92 | 86 | 91 | 88 | 85 | 75 |
| Вецер м/сек | 3 З | 4 З | 5 З | 4 З | 3 З | 1 Пд-З | 2 Пд | 3 Пд | 5 Пд | 5 Пд-З | 6 Пд | 6 Пд | 4 Пд-З | 5 Пд | 3 Пд | 3 Пд-У | 5 У | 6 У | 7 Пд-У |

## Дзень за днём

**Тавараабарот Беларусі з ЕС знізіўся за год на 4 %, рэальныя памеры пенсій – на 2,3 %, яны ў пераліку на долары вярнуліся на пачатак 2010 года. За апошні год насельніцтва Беларусі паболела на 13 тысяч чалавек, колькасць зарэгістраваных беспрацоўных вырасла на 15,4 %. Толькі ў снежні беларусы купілі і прыгналі з Расіі 48 тысяч аўто, болей чым за ўвесь год, калі было набыта 73 тысячы машын. У шэрагу расійскіх СМІ з'явіліся артыкулы аб быццам наступленні на рускую мову ў Беларусі. Урад РБ пашырыў пералік тавараў з Расіі, якія падлягаюць веткантролю. У лютым зноў падаражэлі цыгарэты.**

# Важнейшыя навіны свету

**Грэцыя.** Перамога на датэрміновых парламенцкіх выбарах левы радыкальнай партыі "Сірыза" выклікала паварот у адносінах краіны з ЕС і таксама рэзкае падзенне еўра.

**Саўдаўская Аравія.** Новы кароль Салман аль Сауд заявіў, што краіна не будзе зніжаць аб'ёмы здабычы нафты, на яе нізкія цэны захаваюцца яшчэ 2-3 бліжэйшыя гады.

**Украіна.** Глава СБУ В. Налівайчанка пацвердзіў, што абстрэл Марыупаля з установак "Град" і "Цюльпан" ажыццявіла расійская батарэя артылерыстаў па загадзе яе афіцэра.

**Германія.** Канцлер А. Меркель дамовілася з прэзідэнтам ЗША Б. Абамай узмацніць ціск на Расію за падтрымку баевікоў у Данбасе і невыкананне ёй сваіх абавязацельстваў.

**ЗША.** Сусветнае агенцтва Standard & Poor's панізіла рэйтынг Расіі да смеццевага ўзроўню, РФ чакаюць распродаж актываў, дэвальвацыя рубля на 3-5 %, новыя цяжкасці.

**Расія.** З-за існуючых праблем упершыню краіна адмовіла Прыднястроўю ў аказанні фінансавай дапамогі ў суме 100 мільёнаў долараў на выплату пенсій сепаратысцкаму рэгіёну.

**ЗША.** Намеснік генсакратара ААН Д. Фельтман рэзка раскрытыкаваў Расію за падтрымку баевікоў у Данбасе, вінаватых у забойствах людзей у Марыупалі пакараюць за тэрор.

**Францыя.** Дэлегацыя Расіі дэманстратыўна выйшла са складу ПАСЕ да канца года, прыгразіла ў 2016 годзе выйсці са складу Савета Еўропы, гэты курс вядзе да ізаляцыі РФ.

**Украіна.** Вярхоўная Рада прызнала Расію краінай-агрэсарам і заклікала свет узмацніць ціск на яе, прызнаць самаабвешчаныя "ДНР" і "ЛНР" тэрарыстычнымі арганізацыямі.

**Расія.** Пры Пуціне, як заявіла "Новая газета", РФ праела 3,5 трыльёна нафтадолараў і ўзяла ў доўг яшчэ 610 мільярдаў долараў, скацілася да ўзроўню адсталай Венесуэлы, яе чакае моцны крызіс.

**Венесуэла.** З-за крызісу і недахопу ежы жыхарам краіны забаранілі ноччу стаяць у чэргах ля магазінаў, прадуктовыя крамы дазволена наведваць толькі двойчы ў тыдзень.

**Францыя.** У Страсбургу пратэстуючыя ўкраінцы ля будынка ПАСЕ парвалі сцяг "Наваросіі", далі ў твар і аблілі крывёй лідара КПРФ Г. Зюганава і іншых дзеячаў РФ.

**Расія.** На нарадзе ў МУС РФ у Маскве абмеркавалі пытанні, як супрацьстаяць магчымым акцыям пратэсту супраць рэзкага зніжэння ўзроўню жыцця, росту цэн і беспрацоўя.

**Англія.** Унук Сталіна Яўген Джугашвілі абурыўся, што ўладу ў Крамлі прыбралі да рук злодзеі, а не нармальныя людзі, таму Расія і прадае Украіне рэсурсы звышдорага.

**ЗША.** Вучоныя-біёлагі Каліфарнійскага ўніверсітэта ў выніку даследванняў навучыліся новым метадам дыяліза "разварыць" за хвіліны назад зваранае яйка зноў да вадкага стану.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Праблемы ў Расіі і на яе вялізным рынку моцна б'юць і па нас, як прызнаў А. Лукашэнка, абстаноўка складваецца няпростая зараз, але яна нават не крытычная.

**Пружаны.** Двое кіраўнікоў раёна трапілі пад следства за спробу атрымання новых крэдытаў банка на зарплату і падпісанне ліпавых даведак аб адсутнасці банкаўскіх даўгоў

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" заявіў, што гатовы поўнасцю замяніць пастаўкі харчовай солі (24 %) на расійскім рынку замест забароненай Расіяй украінскай "Арцёмсолі".

**Валожын.** На мясцовым ільнозаводзе пад раніцу згарэла больш 1000 тон ільнотрасты з-за наўмыснага падпалу, урон прадпрыемству больш на 3 мільярды рублёў нанёс 19-гадовы хлопец.

**Мінск.** Глава ўрада РБ А. Кабякоў заявіў, што нягледзячы на дзяржрэгуляванне цэн, рознічныя цэны на беларускую садавіну і гароднiну растуць і яны празмерна дарагія.

**Ліда.** Супраць 6 былых начальнікаў і майстроў мясцовага мясакамбіната распачалі крымінальную справу за крадзяжы і растрату 37,5 тон мясной прадукцыі і каўбас.

**Ашмяны.** Адвакатам удалося прыпыніць далейшую рэалізацыю канфіскаваных уладамі Беларусі 27 фур кантрабанднай бытавой тэхнікі і тэлевізараў з Калінінградскай вобласці.

**Камянец.** На тэрыторыі раёна ў горадзе Высокае вечарам выбухнуў газ падчас рамонтных работ у 5-павярховым жылым доме, былі пашкоджаны кватэры на трох паверхах.

**Асіповічы.** На мясцовым ваенным палігоне 38-я асобная мабільная брыгада правяла вучэнні з баявой стральбой па адпрацоўцы дзеянняў у складаных умовах надвор'я.

**Слонім.** Пасля затрымання з наркотыкамі 25-гадовы жыхар райцэнтра пазбавіўся не толькі 11 млн. рублёў, але і аўтамабіля "Альфа-Рамео", пазычанага ў сваіх знаёмых.

**Гродна.** Католікі рэгіёна абурыліся заявай упаўнаважанага па справах рэлігіі Л. Гулякі аб крытыцы ксяндзоў без фактаў і пачалі збор подпісаў да кіраўніцтва РБ аб іх зневажанні.

**Мінск.** Нягледзячы на заявы развіваць беларускую мову і культуру, як заявіў палітолаг А. Лагвінец, беларусізацыя не стане дзяржаўнай палітыкай у нас і ў перспектыве.

**Гомель.** Былога палкоўніка міліцыі В. Іваненку абласны суд пазбавіў звання і пакараў 7 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за атрыманне хабару ў памеры 70 мільёнаў рублёў.

**Мінск.** Галоўны рэдактар газеты "Народная воля" Іосіф Сярэдзіч заявіў, што свабоду слова нельга задушыць папярэджаннямі Міністэрства інфармацыі, выданне не зменіцца.

**Мінск.** Памочнік прэзідэнта М. Рыжанкоў паведаміў, што пасля рэканструкцыі на трыбунах стадыёна "Дынама" будзе 25 тысяч месц, бо футбол не надта папулярны ў нас.

## Квіткі на цягнікі ў Расію патаннеюць як мінімум на 30%




■ FINANCE.TUT.BY

**Чыгуначныя білеты ў Расію патаннеюць як мінімум на 30%. Зніжэнне тарыфаў адбудзецца ўжо з 10 лютага. Пра гэта распавёў першы намеснік начальніка пасажырскай службы ўпраўлення БЧ Андрэй Кашко. Так перавозчык разлічвае павялічыць пасажырапаток і павысіць даступнасць цягнікоў у параўнанні з аўтобусамі і самалётамі.**

У канцы студзеня кіраўніцтва Беларускай чыгункі дамовілася са сваімі расійскім калегамі, што базавы тарыф будзе зніжаны на 30%. Напрыклад, плацкартавыя квіткі да Масквы з 10 лютага патаннеюць з 800 да 500 тысяч, купэйныя - з 1,5 мільёна да мільёна рублёў, СВ - з трох да двух мільёнаў.

Праз дзень у расійскую сталіцу ходзіць і цягнік Брэст - Масква, у складзе якога ёсць так званы сядзячы вагон-самалёт. Там кошт квітка знізіцца з 630 да 400 тысяч рублёў.

«З улікам ужо дзеючых тарыфных планаў і скідак на праездзе можна будзе зэканоміць да 50%, - кажа Андрэй Кашко. - Напрыклад, пры куплі білета за месяц да адпраўлення цягніка цана аўтаматычна памяншаецца на 15%, ёсць паніжальны каэфіцыент і для пасажыраў, якія падарожнічаюць групамі ад 10 чалавек».

Дадатковыя зніжкі залежаць ад катэгорыі цягніка, далёкасці паездкі і размяшчэння ў вагоне. Так, «бакоўкі» ў плацкарце да Масквы танней іншых месцаў на 10%.

Зніжаныя тарыфы будуць дзейнічаць да канца года на ўсе цягнікі, сфармаваныя БЧ і РЖД. У складах, якія ідуць з іншых краін у Расію транзітам праз Беларусь, праезд не патаннее.

У пачатку года ўсе квіткі ў міжнародных зносінах падаражэлі прыкладна на чвэрць. Прычына - у павышэнні курсу швейцарскага франка. Гэта міжнародная тарыфная валюта для фарміравання базавых цэн на чыгуначныя перавозкі.

«Трэба разумець, што ў базавай валюце кошт праезду не змяніўся. Але з змяненнем курсу франка ў рублёвым выразе ён павялічыўся. З-за падаражэння мы выпалі з канкурэнтнага сегмента. І таму распачалі кардынальныя меры па зніжэнні коштаў на цягнікі ў Расію. За мінулы год па розных прычынах пасажырапаток у гэтым кірунку ўпаў на 15%», - расказаў першы намеснік начальніка пасажырскай службы БЧ Андрэй Кашко.

Каля 70% усіх міжнародных цягнікоў БЧ ідуць у Расію. Асноўныя гарады - Масква і Санкт-Пецярбург. Найбольш запатрабаваныя склады ў будучыні будуць максімальна фармавацца «сацыяльнымі» вагонамі. Гэта значыць, што плацкарта стане больш.

Па іншых міжнародных кірунках зніжэнне кошту білетаў пакуль не плануецца.

«З усімі чыгуначнымі адміністрацыямі краін СНД і суседніх дзяржаў мы дамовіліся аб тым, што ў 2015 годзе ў тарыфнай валюце - Франку - кошт квіткоў мы павышаць не будзем наогул», - удакладніў прадстаўнік БЧ.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Буйны заказ новага абсталявання для ВА "Беларуснафта" па разрыве нафтавых пластоў выканала ў СЭЗ "Віцебск" зарэгістраваная тут фірма "Натрыкс".

**Наваполацк.** Новым старшынёй гарвыканкама прызначылі 40-гадовага былога супрацоўніка КДБ і потым дырэктара мясцовага ЖРЭА Дзмітрыя Дзямідава.

**Шуміліна.** За тры дні злачынцы ўзламалі рашоткі на вокнах і абакралі 2 паштовыя аддзяленні ў Обалі і ў райцэнтры, адкуль забралі стары сейф, але ён быў пусты.

**Віцебск.** На працягу 3-х гадоў запар па выніках маніторынгу МУС Беларусі самы высокі ўзровень даверу насельніцтва да міліцыі ў краіне застаецца на Віцебшчыне.

**Мёры.** З ранейшых 27 у раёне засталося 17 гаспадарак, разам з суседнімі і ўсяго 18 раённыя вобласці урад прызнаў неспрыяльным для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.

**Верхнядзвінск.** На граніцы з Расонскім раёнам з вальераў паляўнічай гаспадаркі "Чырвоны Бор" выпусцілі на волю ў лясныя масівы статкі з 50 зуброў і каля ста аленяў.

**Полацк.** Кефір "Палачанка" малочнага камбіната стаў пераможцам конкурсу якасці прадукцыі "Лепшыя тавары РБ 2014 года", вызначыліся таксама і Глыбоцкі, Аршанскі МКК.

**Паставы.** За мужнасць і выратаванне сям'і з вадаёма падчас дарожнатрнспартнага здарэння ў райвыканкаме ўзнагародзілі Ганаровымі граматамі і прэміямі двух вадзіцеляў А. Лосіка і У. Долмана.

**Глыбокае.** З абласнога этапа рэспубліканскай прадметнай алімпіяды, у якой удзельнічалі 33 лепшыя навучэнцы школ раёна, дамоў прывезлі 15 дыпломаў, з іх – 5 першай ступені.

**Наваполацк.** Выязны першы прыём грамадзян правяла ў горадзе віцэ-прэм'ер урада Беларусі Н. Качанава, наведала новы дзіцячы садясляі, які рыхтуецца да здачы праз месяц.

**Орша.** За спробу згвалтавання дзяўчыны і забойства пенсіянера, які стаў яе абаранянць, суд пакараў 45-гадовага зваршчыка будтрэста 16 гадамі турмы строгага рэжыму.

**Бешанковічы.** Міліцыя высветліла, як летась летам у лазні вёскі Аляксандрава двое сабутэльнікаў з Віцебска на падпітку забілі падчас спрэчкі 32-гадовую віцьблянку.

**Талачын.** Цэлы арсенал зброі, 3500 патронаў, тол і снарады канфіскавалі аператыўнікі ў інжынера прыватнай фірмы, які займаўся раскопкамі на месцах баёў мінулай вайны.

**Браслаў.** Перад сваім звальненнем былы глава раёна С. Шматаў пабываў у доме-інтэрнаце для прэстарэлых і інвалідаў і павіншаваў са 100-гадовым юбілеем Любоў Свілёнак.

**Віцебск.** Камітэт АБФФ па статусе і пераходзе гракоў забараніў ФК "Віцебск" рэгістрацыю новых футбалістаў да моманту поўнага пагашэння запазычанасцей.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Валерый Катовіч,**
*в.а начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Пакарміце птушак узімку

Нягледзячы на тое, што сёлета зіма ў нас адносна цёплая, сырая і без устойлівага снежнага полага, да наступлення вясны, калі птушкі, якія зімуюць у нас, самастойна і ў поўным аб'ёме змогуць здабываць сабе корм, засталіся паўтара-два месяцы, якія для птушак, што зімуюць у нас, могуць стацца вельмі цяжкімі ці нават фатальнымі. Менавіта тым часам птушкі, якія зімуюць у нас – гэта, галоўным чынам, вялікая сініца, хахлатая сініца, верабей палявы і дамавы, гіль, шызы голуб і інш., а таксама некаторыя віды вадаплаўных птушак-лебедзь-шыпун, крыжанка, маюць патрэбу ў падкорме, у сувязі з беднай колькасцю ежы ўзімку і магчымым зніяленнем з прычыны гэтага. Падчас зімовай бяскорміцы, якая выклікана з'яўленнем снежнага полага, перападамі тэмператур, магчымымі завеямі, якія чаргуюцца адлігамі, у выніку якіх можа адбывацца абледзяненне дрэў, запаўненне адталай вадой паглыбленняў у кары, што робіць казурак, якія хаваюцца пад карой, і іх лічынак недаступнымі, а таксама замярзанне ўчасткаў рэк і вадаёмаў, на якіх зімуюць вадаплаўныя птушкі, ад голаду гіне вялікая колькасць птушак.



Для падкорму дзікіх птушак, можна выкарыстоўваць разнастайныя віды малапамерных кармушак, якія выраблююцца з кардона, з празрыстых пластыкавых бутэлек, або з неглыбокіх драўляных скрынь, лістоў фанеры і іншых прыдатных для гэтага матэрыялаў. Для вадаплаўных птушак можна вырабляць кармавыя столікі або высыпаць корм на бераг вадаёма.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртаецца да ўстаноў адукацыі, дзіцячых садкоў, а таксама карыстальнікаў паляўнічых угоддзяў і да ўсіх жыхароў раёна, прыняць удзел у мерапрыемствах па падкорме птушак.

Калі Вы жывяце ва ўласнай хаце, прасачыце, каб зімовы корм заўсёды быў раскладзены ў вашым садзе ці проста ў двары. Калі Вы жывяце ў гарадской кватэры, то паклапаціцеся пра птушак у найбліжэйшым парку ці ля навакольнага вадаёма. Калі ў вас ёсць дзеці, прыцягніце іх да вырабу кармушак і кармлення птушак, бо для іх гэта выдатная магчымасць вывучэння жывой прыроды і навакольнага свету.

Калі вы неабыякавыя да прыроды, то па ўсіх парушэннях вы можаце паведаміць на тэлефон гарачай лініі: 8(02156) 2-86-70, мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

## *Рыбацкія гісторыі*

# Таямнічая лунка

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Не факт, што толькі на лёдзе можна спакаткаць мноства рыбакоў. І ў бальнічнай палаце, таксама. Сем пацыентаў, і ўсе – рыбакі!**

Гэта, як раз той выпадак, калі адсутнасць тэлевізара ў палаце кампенсуецца доўгімі гутаркамі аб рыбацкіх прыгодах і трафеях – далёка за апоўнач.

– Неяк, гадоў пяць таму, вяртаўся я ад цешчы з Псуі,– апавядае Іван Апяцёнак, жыхар Шунеўцаў. – Апрануты быў па выхадному. А тут, бачу – рыбакі на Доўгім сядзяць. Дай, думаю, падыду, пацікаўлюся, ці клюе?

Час быў пад вясну. Ад цеплыні прасвідраваныя некалі лункі ўжо пераўтварыліся ў палонкі, хоць ваду вядром з іх чэрпай. Падыходжу да бліжэйшага. Рыбака я не ведаў асабіста, але твар знаёмы – зваршчык з Псуі. Вуда – абы што! Не крамная, а звычайная палка з лескай, без катушкі.

На маіх вачах чалавек выцягвае самавітага ляшча – кілаграмы на тры!

– *Я тут, напярэдадні, цэлы рондаль аб'едкаў у лунку высыпаў,–* тлумачыць псуеўскі зваршчык. – *Макароны, спагеці.*

– Ого! — на маіх вачах псуеўскі зваршчык цягне з лункі яшчэ аднаго 3-кілаграмовага ляшча. Леска – звініць, аднак – надзейная! Лешч, хоць і не без супраціву, аднак быў дастаўлены на паверхню і склаў пару.

Псуеўскі рыбак апускае леску з прынадай у трэці раз. Паклёўка! Падсечка! ... От, халера! Голы канец! Леска, усё ж, не вытрымала!

– *Шэсць кілаграмаў! Мне досыць!—* кажа псуеўскі рыбак. – *Збіраюся дадому, на працу трэба хутка ісці.*

На адлегласці дзясятка метраў далей – сем рыбакоў на лёдзе. Полацкія! Паважаюць яны возера Доўгае, прыязджаюць сюды на дызелі яшчэ зацемна да Зябак.

– *Хадзі сюды!—* махае рукой псуеўскі рыбак недалёкаму палачаніну. *—Тут клюець!*

У палачаніна – справы кепскія! Нават і ярша не злавіў. Адгукнуўся ахвотна. Змяніў дыслакацыю. Адкрывае сваю рыбацкую скрынку. Сем вудачак. Усё – з іголачкі, крамнае, імпартнае, леска японская.

Палачанін начапіў на кручок мармышкі прынаду з матыля, адматаў лескі на патрэбную глыбіню…

Опа! Паклёўка! Ківок уверх – лешч клюе! Адназначна.

Ну й пацягнула рыбіна… Леска аж звініць! Дзвынь! Толькі голы канец лескі, мармышку рыбіна спёрла з сабой на сувенір.

Палачанін дастае другую вудачку. Рукі ў чалавека трасуцца ад хвалявання, усё ніяк не атрымліваецца начапіць матыля на кручок. Нарэшце даў рады. Апускае мармышку на тую самую глыбіню.

Ого! Паклёўка адразу! Ківок ізноў уверх! Усё было дакладна, як і першы раз. Дзвынь! Голы канец лескі. Другая мармышка зышла рыбам на сувенір.

Дастае полацкі рыбак трэцюю вуду… Дзвынь! Трэцяя мармышка сталася рыбіным сувенірам.

Чалавек знерваваўся ў канец! Чацвёртую вуду дастае! Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць, і ён быў прадказальны! Чацвёртая мармышка пайшла на сувенір.

Так! Як Вы ўжо ўсе здагадаліся – такі ж незайздросны канец чакаў і пятую, і шостую, і сёмую спробу. Усе сем мармышак зышлі на сувеніры! Чалавек у роспачы! Сем вудаў прыйшлі ў непрыдатнасць.

– *А что здесь за рыба такая клюёт?—пытае збянтэжаны палачанін.*

– Ды такая, як гэтая!— паказвае псуеўскі зваршчык на свае трафеі. – Толькі разы ў два-тры большая!

– *Придётся просить удочку у друзей,–* кажа палачанін.

Ён пайшоў, вуду яму далі. Аднак палачанін не стаў ізноў выпрабоўваць лёс, сеў на ранейшую, няклёвую лунку, у кампаніі полацкіх рыбакоў.



# У Віцебскай вобласці з'явілася самая паўночная папуляцыя зубра

**24 студзеня ў паляўнічай гаспадарцы «Чырвоны бор», якая знаходзіцца ў Расонскім раёне Віцебскай вобласці, у натуральнае асяроддзе пасялення выпусцілі статак зубраў.**

48 зубраў, якія разам з аленямі амаль два гады ўтрымоўваліся ў вальеры для ператрымкі паляўнічых жывёл. Урачыста выпусцілі на волю ў прысутнасці прадстаўнікоў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі і Дзяржаўнай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету, пра гэта паведаміў вядомы беларускі фатограф Сяргей Плыткевіч на партале wildlife.by. Акрамя зубраў таксама на прыроду выпусцілі больш двухсот аленяў.

Папуляцыя зубраў, якая зараз будзе пражываць на мяжы Расонскага і Верхнядзвінскага раёнаў, стала самай паўночнай у Беларусі, а на зямным шары, самай паўночнай кропкай, дзе на волі насяляюць зубры, з'яўляецца Валагодская вобласць у Расійскай Федэрацыі. Цікава, што на Валагоччыне зубры, якіх пасялілі тут у 1991 годзе, не сталі чакаць вызвалення, а самі прарвалі агароджы і сышлі на вольную пашу.

Як вядома, апошні дзікі зубр у Белавежскай пушчы быў забіты ў 1919 годзе, а ў 1927 годзе загінуў ад рук паляўнічых апошні каўказскі зубр. Уся сусветная папуляцыя гэтых жывёл цяпер з'яўляецца нашчадкамі 12 асобінаў якія жылі ў заапарках. Цяпер на Зямлі налічваецца 4663 зубры, 2701 з якіх жыве на волі. Па апошніх падліках, у Беларусі жыве 958 асобінаў, большы лік зубраў насяляе толькі Польшчу — 1300 асобін.



# Глыбоцкія майстры рукапашнага бою – на 2-м месцы ў вобласці!

**4 лютага ў Віцебску прайшоў чэмпіянат БФСТ "Дынама" па рукапашным бoі. Сярод 16 камандаў РАУС Віцебскай вобласці глыбоцкія міліцыянты занялі ганаровае другое каманднае месца.**

У персанальным заліку ў вагавай катэгорыі да 70 кг Сяргей Цырбан – 2-е месца, у вагавай катэгорыі да 75 кг Сяргей Рабікаў – 3-е месца, у вагавай катэгорыі да 90 кг Міхаіл Цынковіч – 3-е месца.

*У. Скрабатун.*



# Пазычыў грошы – заплаці падатак!

### У Беларусі з'явіўся падатак на пазычаныя грошы

**Плаціць падаходны падатак з 1 студзеня трэба не толькі з зарплаты, але і з пазычаных грошай. Напрыклад, у суседа або замежнага сябра.**

Падатак складзе 13% ад атрыманай сумы.

Новаўвядзенне закране ў першую чаргу людзей, якія пры запаўненні дэкларацыі аб даходах і маёмасці растлумачаць, што кватэру ці машыну купілі за пазычаныя грошы. Пры гэтым пазыковая распіска можа быць аформлена хоць пяць гадоў таму.

Да такіх жа крэдытаў і пазык аднеслі даходы ад замежных арганізацый і прадпрымальнікаў. Як паведамілі ў ІМПЗ па Гродзенскай вобласці, выключэннем можа быць сітуацыя, калі ў доўг даў блізкі сваяк, апякун, папячыцель і падапечны. Дарэчы, пасля вяртання пазыкі падатак можна вярнуць. Для гэтага трэба напісаць заяву і прынесці падатковаму інспектару дакумент, які пацвердзіць вяртанне пазыкі. Новая дамова пазыкі для вяртання бягучага доўгу такім дакументам не лічыцца.

*vgr.by*

# У МПЗ растлумачылі, з якіх пазык беларусам давядзецца плаціць падаходны падатак

**Падатковы кодэкс Беларусі прадугледжвае, што ў пэўных выпадках пазыкі, крэдыты, узятыя фізасобамі, могуць абкладацца падаходным падаткам.**

Адпаведныя папраўкі ўступілі ў сілу з 1 студзеня 2015 года. У Міністэрстве па падатках і зборах растлумачылі, у якіх выпадках давядзецца плаціць падаходны падатак з пазычаных грошай.

Гаворка ідзе аб пазыках, крэдытах, што былі атрыманы ад іншых фізічных асоб, якія не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, ад замежных арганізацый, што не ажыццяўляюць сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі праз пастаяннае прадстаўніцтва, а таксама ад замежных ІП.

Але гэта не значыць, што цяпер плаціць падатак давядзецца нават у тым выпадку, калі пазычыў у суседа да зарплаты. «Падаткаабкладанне датычыцца толькі тых грамадзян, якія па патрабаванні падатковых органаў павінны прадставіць дэкларацыю аб даходах і маёмасці. Напрыклад, чалавек ажыццяўляў дарагія пакупкі (нерухомая маёмасць, аўтамабіль і гэтак далей), але пры гэтым атрымліваў невялікую заработную плату або зусім не меў даходаў. Калі ў дэкларацыі аб даходах і маёмасці ён пакажа, што рабіў гэтыя пакупкі за кошт пазыкі ў іншай фізічнай асобы, то з гэтай сумы яму трэба будзе заплаціць падаходны падатак», — расказалі ў прэс-цэнтры МПЗ.

Важна, што дэкларацыя аб даходах і маёмасці прадстаўляецца толькі тымі фізічнымі асобамі, якім накіравана адпаведнае пісьмовае патрабаванне падатковага органа, падкрэслілі ў ведамстве. Падатковыя органы запатрабуюць дэкларацыі ў тых, хто, паводле даных МПЗ, жыве «не па сродках»: не атрымлівае даходаў з афіцыйных крыніц або атрымлівае іх у нязначных памерах, але пры гэтым купляе дарагую нерухомую маёмасць, транспартныя сродкі, а таксама ажыццяўляе іншыя фінансавыя аперацыі.

Падаходны падатак падлягае выплаце ў трыццацідзённы тэрмін з дня атрымання паведамлення ад падатковага органа. Стаўка падатку складае 13%.

У МПЗ звярнулі ўвагу: Падатковым кодэксам прадугледжана, што пры поўным пагашэнні пазык, вяртанні крэдытаў выплачаны падаходны падатак падлягае залічэнню або вяртанню. Для гэтага неабходна падаць заяву і дакументы, якія пацвярджаюць поўнае пагашэнне, вяртанне грошай у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік. Падаходны падатак будзе залічаны або вернуты на працягу месяца.

«Разам з тым пры пагашэнні (вяртанні) пазык, крэдытаў за кошт сродкаў, атрыманых на зваротнай або ўмоўна зваротнай аснове ад асоб, пераразлік падаходнага падатку не ажыццяўляецца і падатак вяртанню (залічэнню) не падлягае», — дадалі ў прэс-цэнтры міністэрства.

Не абкладаецца падаткам названая ў дэкларацыі пазыка, калі яна атрымана ад блізкага сваяка: у мужа ці жонкі, бацькоў (усынавіцеляў), дзяцей (у тым ліку ўсыноўленых, удачароных), родных братоў і сясцёр, дзядуль, бабуль, унукаў, ад блізкіх сваякоў жонкі ці мужа.

Падаходны падатак не вылічваецца з сум пазык, атрыманых ад беларускіх арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў, а таксама крэдытаў, атрыманых у беларускіх банках і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых установах.

*БелТА*

# Настаўнік з Мёраў Вітольд Ермалёнак стварыў чатыры школьныя музеі



Вітольд Ермалёнак у сваім музеі.



Экспазіцыя музея.

**Зараз у яго музеях налічваецца больш за 25 тысяч экспанатаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Гісторыяй спадар Вітольд, ураджэнец Браслаўшчыны, пачаў цікавіцца яшчэ з дзяцінства. Па яго словах, першыя раскопкі ён правёў, калі яму было пяць гадоў. Яго на гэта падбіла старэйшая сястра, якая ў школе ўжо вучыла гісторыю. Раскопкі яны пачалі рабіць прама на дарозе. Сястры гэта хутка надаела, а пяцігадовы Вітольд раскапаў паўметровую яму і дагэтуль памятае рэчы, якія там знайшоў – гэта кавалачкі шкла, керамікі, крук ад карамысла.

Але раскопкі скончыліся кур'ёзам: па дарозе ехаў чалавек з возам саломы, кола трапіла ў яму, і воз перакуліўся. Вінаватага адразу вылічалі - і хлопчыку дасталося ад бацькі.

Праўда, гэта не спыніла яго цікавасці да гісторыі. Пасля школы Вітольд Антонавіч паступіў у Гарадзенскі інстытут на гістарычны факультэт, які скончыў на выдатна. Яму прапаноўвалі нават ехаць вучыцца далей у Маскву, але ён выбраў працу на радзіме.

Амаль сорак гадоў ён адпрацаваў у Мёрах, спачатку ў першай школе, потым у трэцяй. У гэтай школе ён і стварыў у 1986 годзе свой першы краязнаўчы музей. Да гэтага часу ўжо сабрана больш за 25 тысяч экспанатаў. Тут прадстаўлены знаходкі ад таго часу, калі на тэрыторыі Беларусі было мора, да нашых дзён. Ёсць экспанаты з Кітая, Афрыкі, іншых частак свету. Месца на ўсё не хапала, таму спадар Ермалёнак рашыў пашырацца – стварыў музей кнігі і друку. Зараз заканчваецца афармленне музея адукацыі.

Па словах Вітольда Ермалёнка, сучасныя дзеці ўжо не ведаюць, для чаго прызначаліся тыя ці іншыя прылады, якія былі звыклымі для яго пакалення. Таму разам з сынам, які, дарэчы, таксама працуе настаўнікам гісторыі ў гэтай школе, яны перавезлі з вёскі старую хату і пачалі ствараць этнаграфічны музей. У ім будзе тры пакоі, дзе будзе прадстаўлены быт XIX стагоддзя, 30-х і 50-х гадоў XX стагоддзя.

Настаўнік ганарыцца сваімі былымі вучнямі, сярод якіх і два ксяндзы Юрый і Вячаслаў Баркі, і Мікалай Дземідзенка, і Уладзімір Яроменак, і шмат іншых. Апрача ўрокаў гісторыі Вітольд Ермалёнак стварыў краязнаўчы гуртох "Арганаўты мінулага", дзе вучні ходзяць у вандроўкі, шукаюць старажытныя рэчы, вучацца любіць родны край.

– Краязнаўства і гісторыя робіць чалавека свядомым, кажа спадар Вітольд, – Недарэмна пры Сталіне каго перш знішчылі? Краязнаўцаў. Разгромілі краязнаўчае таварыства, зачынілі часопіс, а потым і фізічна знішчылі. І ва ўсе часы краязнаўства было такім, таму што яно паказвае на мясцовым матэрыяле тое, што было на самай справе, а гэта не заўсёды супадае з палітычным курсам краіны. Ніколі не супадала, можна сказаць, ні ў савецкія часы, ну, і не заўсёды зараз.

Былыя вучні часта наведваюць свайго настаўніка, дапамагаюць яму ў музеі. Адзін з былых вучняў, а зараз студэнт гістфака БДУ, Ігар Кандратовіч выказаўся пра працу свайго настаўніка так::

– Менавіта таму, што я хадзіў на гурток, пачаў размаўляць па-беларуску. У мяне быў увесь асяродак расейскамоўны. І ў сям'і ў мяне па-расейску размаўлялі, і ў школе сябры і знаёмыя. А там мы размаўлялі толькі па- беларуску і дзякуючы гэтаму я і пачаў гаварыць па-беларуску. Цяпер я толькі так і размаўляю з усімі ўвесь час амаль што.

На будучыню беларускай мовы і наогул краіны Вітольд Ермалёнак глядзіць з аптымізмам:

– Пакуль ёсць носьбіты, пакуль хоць адзін чалавек размаўляе на мове, яна будзе жыць. У нас ёсць вялікая спадчына, вось тая самая кніжная спадчына, колькі было выдадзена кніжак за апошнія сто гадоў, колькі было пісьменнікаў, гэта вялікі пласт культуры, гэта не знішчыш, бо напісанае застанецца. Трэба быць аптымістамі ў гэтым сэнсе. Дастаткова спрыяльных палітычных умоў і, канечне, мова вернецца."

Спадар Ермалёнак кажа, што нас, беларускіх патрыётаў, не так шмат, але мы - на кожным кіламетры. І дзякуючы працы такіх настаўнікаў наша мова і гісторыя будзе жыць.

## МНС інфармуе

**на 10.02.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**

Пажараў – 76;

Гібель людзей – 16, з іх 0 дзяцей;

**Глыбоцкі раён:**

Пажараў – 7;

Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;

Урон –107 млн. руб.

# Памяцi Паэта, Настаўнiка, Сем'янiна

**Старажытны горад Глыбокае славен-бачны здалёк сваімі вежамі Храмаў. Каля храмаў з'явіўся Пантэон Памяці Славутых Глыбачан. Побач на Храмавай Гары каля фантана месціцца сціплы помнік – Прысвячэнне кнізе, як цуду, створанаму розумам і натхненнем чалавека. Тут калісьці прайшоў-паехаў у свет па навуку з Полацка на Вільню і далей на Кракаў славуты Францыск Скарына, стаўшы сімвалам адукаванай Беларусі.**

**Генадзь Плавінскі**



Сёння ў жыцці горада культурная і грамадская падзея: у сталічным выдавецтве "Кнігазбор" у падарункавым фармаце сціплым тыражом выйшла кніга "Пагавары са мной". Памяці Віталя Гарановіча. Паэта. Настаўніка. Дырэктара-адраджэнца беларускамоўнай школы. Грамадзяніна Глыбокага, пры жыцці якога школа №3 станавілася легендай. Тут два дзесяцігоддзі шчыраваў Настаўнік. Сеяў шчырыя беларускія словы, вучыў любіць Беларусь. Віталь Гарановіч пакінў след дабрыні і духоўнасці ў юных навучэнцаў школы, многіх тысяч выпускнікоў і іх бацькоў. Разам з настаўнікамі, вучнямі і бацькамі ствараў глыбоцкі дух навучання і асветы.

Хацеў бы звярнуць увагу на веліч гэтай асобы, як прыклад сем'яніна. Сёння інфармацыйная рэвалюцыя, мабільная сувязь, імклівае раздзяленне людзей па дастатку неяк зменшыла каштоўнасць сям'і. Па добрай даўняй традыцыі ў нашым краі шанавалася сям'я, талерантнасць, добрасуседства. А ў сям'і ёсць бацька і маці і дзеткі растучыя. А што сям'я ёсць нешта цэлае, Богам створанае, то нашы продкі называлі маці па імені яе мужа. У нашых беларускіх вёсачках чароўных жоначак звалі Іваніха, Петрачыха. А пры імені Лявоніха і сёння ногі самі просяцца ў пляс.

Вернемся да кнігі, прысвечанай мужу, сябру, бацьку трох сыноў. У кнізе роcквіт беларускіх вершаў, чароўнай музыкі беларускага слова, якая так натхняла ўральскага хлопца Уладзіміра Мулявіна. Кніга багата ілюстравана фотаздымкамі. Угледземся на фота дзевяці моладцаў у час службы ў войску. На пагонах семярых зіхацяць палоскі сяржантаў, у аднаго – яфрэйтара, а наш герой проста радавы асяродка, як бы мовіць эліты вайсковай часці. Гэта сведчыць, што юнак з вёскі Ермакі меў талент атамана згуртоўваць і весці за сабой блізкіх.

Юныя школьніцы, хто з вас не мроіць зачараваць свайго прынца-абранніка? Паглядзіце на здымак з надпісам "На радзіме жонкі. 1981 г." Маладая, шчаслівая, як бы недаступная дзяўчына і побач прытуліўся-ўхапіўся імпазантны Віталь. А ён ужо дырэктар школы. На яго з захапленнем глядзяць многія прыгажуні-настаўніцы і не толькі. А пагартайце кнігу. І праз некалькі старонак - чуллівыя вершы Віталя пра каханне, пра сваю абранніцу, пра чароўныя вочы, ... мая адзіная багіня..., кветка-папараць у снах…, Завяла мяне ты ў нерат, не пайду назад. Наперад!..

Хочацца напомніць дзяўчаткам, што нерат, гэта старажытная і цяпер рэдкая прылада для лоўлі рыбкі. У нерат шчупак зойдзе і ходзіць па кругу, як бы на свабодзе, а выйсці не можа. Ды і сам не хоча. Паэт жа сказаў: "Не пайду назад. Наперад!"

Нерат дзяўчыны – гэта жаночая чароўнасць, узнёслась, непасрэднасць, стрыманасць. Успамінаю сустрэчу для душы з паэтам у гасцёўні гарадскога цэнтра культуры, якую ладзіла супрацоўніца бібліятэкі Жанна Юркевіч, з вуснаў якой мёдам сцякалі беларускія словы. Амаль дзве гадзіны шчырай размовы, на якой Віталь Рыгоравіч чытаў свае вершы, усіх паланіла яго таямнічая ўсмешка, а за раялем шчыравала Ганна Шакола, кранalі душу шчымлівыя песні на словы паэта Віталя Гарановіча. Мне пашчасціла быць на той вечарыне разам са сваёй незабыўнай Галінай. Агледзеўшыся, ціха запытаў у яе: "А чаму тут няма жонкі паэта? " Мая палавінка паглядзела і па-жаночаму хітра ўсміхнулася. І я цяпер думаю, што гэта нерат, збудаваны жонкай Віталя-паэта. Тут была жаночая мудрасць не трымаць мужа на кароткім павадку, а давяраць яму, даваць яму волю адчуць сябе вольным бацянам, падняўшыся ўвысь да неба, кружыць і бачыць навокал хараство, каб увечары вярнуцца да свайго гнязда, да сваіх трох дзіцятак і буслiхі.

Віталь Гарановіч напісаў і пра сябе:

*Ён быў. Ён ёсць, каб вечна быць яшчэ,*

*Дзе распраўляе вольна крылы бусел...*

# Быў рыцарам у навуцы і грамадскім жыцці Беларусі



**Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

**20 студзеня 2015 года памёр вядомы беларускі гісторык, доктар гістарычных навук (1986), прафесар (1987) Анатоль Пятровіч Грыцкевіч.**

Ён нарадзіўся 31 студзеня 1929 года ў Мінску. Бацька быў настаўнікам, а маці – урачом. З дзяцінства Анатоль праяўляў вялікую цікавасць да ведаў. Карыстаўся бібліятэкай бацькі, дзе было шмат твораў беларускіх пісьменнікаў.

У 1950 годзе Анатоль Грыцкевіч скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, у 1955 годзе – Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, а ў 1958 годзе – гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Некаторы час працаваў урачом. З 1959 года працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР, з 1975 года – загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры (з 1993 года Беларускага ўніверсітэта культуры). У 2001-2005 гадах быў старшынёй МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", пасля – ганаровым старшынёй.

А.П.Грыцкевіч даследаваў гісторыю Беларусі перыяду феадалізму, прыватнаўладальніцкія гарады (вызначыў іх колькасць і тыпы, узровень эканамічнага развіцця, сістэму кіравання і самакіравання, ролю іх як вайсковай апоры, сацыяльна-эканамічнае становішча мяшчанства). Вучоны вывучаў таксама рэлігійныя праблемы ў Вялікім Княстве Літоўскім (ВКЛ), становішча праваслаўнай і уніяцкай царкваў, гісторыю Беларусі 1917-1920 гадоў, Слуцкі збройны чын 1920 года, даследаваў гісторыю ваенных і дыпламатычных узаемаадносін Літвы і Савецкай Расіі, літоўска-беларускіх дачыненняў у 1919-1920 гадах.

А.П.Грыцкевіч – аўтар публікацый па гісторыі шляхецкага саслоўя, генеалогіі і выбранцаў, гістарычных нарысаў пра Слуцк, даследаванняў пра Слуцкі збройны чын 1920 года.

У 2013 годзе выйшла кніга А.П.Грыцкевіча "Выбранае" ў выдавецтве "Кнігазбор", а ўвосень 2014 года – кніга "Сцягі Оршы", прысвечаная 500-годдзю бітвы пад Оршай.

А.П.Грыцкевіч быў выдатным краязнаўцам. Аб гэтым сведчаць не толькі шматлікія публікацыі, але і актыўны ўдзел у навукова-краязнаўчых канферэнцыях. Ён не раз выступаў з цікавымі дакладамі ў нашым рэгіёне.

Родны брат Анатоля Пятровіча Валянцін Грыцкевіч таксама быў урачом і гісторыкам. Яны падзялялі погляды на гісторыю Беларусі. З таго часу, як Валянцін Грыцкевіч з'ехаў у Ленінград, паміж імі вялася перапіска, у якой абмяркоўваліся розныя пытанні, што тычацца гісторыі і культуры Беларусі. Пры абмене думкамі нараджаліся новыя ідэі, новыя падыходы да розных з'яў і падзей гісторыі Беларусі, а часам і гісторыі Расіі.

У слове на развітанне пісьменнік-гісторык Уладзімір Арлоў сказаў: "Смерць Анатоля Грыцкевіча – вельмі цяжкая навіна для мяне. Здаецца, усё жыццё я быў знаёмы з ім, з тых гадоў, як адчуў сябе беларусам. Мы жылі па-суседству, і мне часта даводзілася бываць у Анатоля Пятровіча. Ён быў рэцэнзентам кніг, якія вельмі важныя для мяне – "Краіна Беларусь" і "Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя". Ён вельмі цешыўся, калі ўзяў у рукі кнігу "Вялікае Княства Літоўскае" і англамоўны пераклад кнігі "Краіна Беларусь".

А.Грыцкевіч вельмі годна рэпрэзентаваў беларускую гістарычную навуку ў Еўропе і свеце. Ён увёў у гістарыяграфію азначэнне РэчыПаспалітайякфедэрацыі дзвюх раўнапраўных дзяржаў - нашай старажытнай краіны Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Спадар Анатоль не раз выступаў на міжнародных канферэнцыях у Лондане, Рыме, Парыжы, Будапешце, Санкт-Пецярбургу, дзе нязменна выказваў свой погляд на гісторыю беларусі як самастойнай еўрапейскай дзяржавы і народа са сваёй мовай і культурай, якому належала вызначальная роля ў стварэнні і развіцці Вялікага Княства Літоўскага.

Апошняя кніга, над якой мы працавалі разам, была "Сцягі Оршы", прысвечаная 500-годдзю славутай перамогі нашых продкаў над маскоўскімі захопнікамі. Гэтая кніга адкрывае серыю "Славутыя бітвы". Анатоль Грыцкевіч знайшоў у метрыцы Вялікага Княства Літоўскага, што ягоны далёкі продак, баярын Юхно Грыцкевіч, удзельнічаў у той бітве і вярнуўся пераможцам. Анатоль Пятровіч быў годным нашчадкам таго рыцара, ён сам быў рыцарам у навуцы і грамадскім жыцці Беларусі". ("Народная воля", №6 (3951), 23 студзеня 2015г, с.1).

А.П.Грыцкевіч з'яўляўся шчырым і адданым патрыётам Беларусі, працаваў для дабра нашай Бацькаўшчыны. Імя выдатнага вучонага і грамадскага дзеяча Анатоля Пятровіча Грыцкевіча будзе жыць у памяці ўсіх, хто яго ведаў і супрацоўнічаў з ім.



**Анатоль Грыцкевіч: «Беларусам трэба чытаць сваю гісторыю і чытаць на беларускай мове». студзень 2013 г.** *Фота з сайта nn.by*

